Ostrogorski Centre BelarusDigest



# Беларуская бізнес-адукацыя: ад каманднай эканомікі да рынку

Рыгор Астапеня

Аналітычны дакумент 8 | 20 студзеня 2017



Pictures: www.ostrogorski.org, www.ipmmarketing.blogspot.com

Мінск-Лондан
2017

# Падзякі

Гэтае даследаванне было падтрыманае грантам Амбасады Нідэрландаў у Польшчы і рэалізаванае Цэнтрам Астрагорскага ў межах падрыхтоўкі да канферэнцыі "Адукацыя як права чалавека: мадэрнізацыя вышэйшай адукацыі ў адказ на выклікі XXI стагоддзя".

Цэнтр Астрагорскага хацеў бы падзякаваць дырэктару Інстытута бізнесу і менеджменту тэхналогій Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Уладзіміру Апанасовічу і начальніку ўпраўлення эканомікі інавацыйнай дзейнасці Міністэрства эканомікі Дзмітрыю Крупскаму за іх каментары да ранейшых версій даследавання.

Цэнтр Астрагорскага таксама выказвае падзяку асобам, якія дапамагалі ў напісанні гэтай працы сваімі ідэямі, у тым ліку генеральнаму дырэктару бізнес-школы Інстытута прыватызацыі і менеджменту Паўлу Данэйку, памочніку дырэктара Інстытута бізнесу і менеджменту тэхналогій Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Радзівону Марозаву, дырэктару Кансалтынгавай групы "Здесь и Сейчас" Аляксандру Панькову.

# Рэзюмэ


- Сфера беларускай бізнес-адукацыі праходзіць праз вялікія выпрабаванні ў сувязі з крызісам айчыннай эканомікі. Цягам трох апошніх гадоў памер абароту рынку ў далярах ЗША, паводле розных ацэнак, зменшыўся амаль на палову. Гэтаксама эканамічныя цяжкасці ўзмацнілі патрабаванні кліентаў бізнес-адукацыі, якія сталі больш разборлівымі пры выбары бізнес-навучання. Гэта добрая навіна для заможных і якасных адукатараў, якія маюць магчымасці адпавядаць гэтым патрабаванням.

- Беларускія ўлады выказваюць зацікаўленасць у развіцці бізнес-адукацыі, пра што сведчыць прыняцце адпаведнай Канцэпцыі беларускім урадам у 2015 годзе. Аднак дагэтуль Міністэрства адукацыі няшмат зрабіла, каб дапасаваць дзяржаўныя рэгуляцыі да сучасных рэаліяў. Магчыма, гэта стане больш рэальным пасля стварэння Рэспубліканскай рады па развіцці сістэмы бізнес-адукацыі, што мае адбыцца ў 2017 годзе.

- Сёння ёсць тры асноўныя праблемы, на якіх маглі б сфакусавацца прадстаўнікі ўрада, міжнароднай супольнасці і бізнес-адукатараў. Па-першае, улады маюць цалкам зраўняць умовы для дзяржаўных і прыватных адукатараў у сферы падаткаў і выдачы дыпломаў дзяржаўнага ўзору, а таксама даць большую акадэмічную свабоду ўніверсітэтам. Па-другое, замежныя партнёры маглі б падтрымаць метадалагічныя і тэхналагічныя паляпшэнні беларускай бізнес-адукацыі праз трэнінгі ўнутры краіны і замежныя стажыроўкі. Па-трэцяе, беларускія бізнес-адукатары маглі б павялічваць сваю прысутнасць у рэгіёнах, напрыклад выкарыстоўваючы сродкі замежных фондаў, у выпадку нерэнтабельнасці гэтых крокаў.

# Уступ

Бізнес-адукацыя з’яўляецца сектарам навучання, які хіба найбольш адчувае стан эканомікі. Калі ў суседніх краінах, як Польшча ці Расія, на пачатку 90-х быў бум на развіццё бізнес-адукацыі, звязаны з ростам долі прыватнага сектару ў эканоміцы, то ў Беларусі сектар бізнес-навучання рос паволі. Беларускія бізнес-адукатары не мелі буйных замоўцаў, як, напрыклад, “Газпром” у Расіі, і выглядалі як трэнінгавыя цэнтры, арыентаваныя на малы бізнес.

Калі ж беларуская эканоміка пачала імкліва расці і павялічвалася доля прыватнага сектару, паралельна ёй узрастаў сектар бізнес-адукацыі, які ўзмацняўся бізнес-школамі пры ўніверсітэтах і доўгатэрміновымі праграмамі ў прыватных бізнес-школах. У 2009 годзе эканамічны рост замарудзіўся і адпаведна зменшыўся рынак бізнес-адукацыі[1], што ўзмацнілася ў часе сённяшняга эканамічнага крызісу[2].

Гэты крызіс пакідае беларускую бізнес-адукацыю на раздарожжы, бо ён, пэўна, скончыцца няхутка, і правайдарам бізнес-адукацыі, як і многім іншым, трэба прызвычаіцца жыць у гэтай “новай нармальнасці”. Пры гэтым кліенты бізнес-адукатараў павышаюць свае патрабаванні і патрабуюць большай практыка-арыентаванасці[3], што звязана са сталеннем беларускага прыватнага сектару, які развівае формы ацэнкі і кантролю ўласнай эфектыўнасці.

Дзяржаўная “Канцэпцыя фармавання і развіцця сістэмы бізнес-адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь”[4] трактуе бізнес-адукацыю як “навучанне, накіраванае на засваенне ведаў, уменняў і навыкаў, неабходных для выканання функцый кіравання ў камерцыйных арганізацыях”. Падобнае азначэнне мае пэўнае абмежаванне, бо, напрыклад, не ўлічвае навучання продажам менеджараў ніжэйшага ці сярэдняга ўзроўню. Таму гэтае даследаванне будзе глядзець на бізнес-адукацыю шырэй, то бок як на падрыхтоўку кадраў, неабходных для лепшага функцыянавання бізнес-структураў.

Гэтае даследаванне мае дзве мэты. Па-першае, акрэсліць сённяшнія трэнды і выклікі, з якімі сутыкаюцца беларускія правайдары бізнес-навучання. Па-другое, прыўнесці ідэі, якія маглі б пашырыць абсяг і палепшыць якасць беларускай бізнес-адукацыі з дапамогай міжнароднай супольнасці.

Трымаючыся гэтых задачаў, даследаванне будзе мець пэўныя абмежаванні. Па-першае, бізнес-адукацыя ў Беларусі мае тры формы (універсітэцкая адукацыя, доўгатэрміновыя праграмы, кароткачасовыя трэнінгі), і аналіз кожнай і выпрацоўванне адпаведных рэкамендацыяў вымагае большай спецыфікацыі, чым магчыма змясціць у гэтым дакуменце. Па-другое, рынак бізнес-адукацыі ў Беларусі з’яўляецца высокаканкурэнтным асяроддзем, таму высновы і рэкамендацыі будуць скіраваныя на ўсіх актараў рынку, а не на канкрэтныя школы. Вышэйшыя абмежаванні не адмаўляюць карысцяў, якія гэтае даследаванне можа прынесці асобным гульцам (прыватным кампаніям або дзяржаўным установам), але яны яшчэ раз падкрэсліваюць наш фокус – публічнае дабро.

---

1 *Бизнес-образование в Беларуси продвигает частная инициатива – Павел Данейко*, http://bdg.by/news/economics/6025.html.

2 *Чем закончится переформатирование рынка бизнес-образования*, http://probusiness.by/opinion/561-chem-zakonchitsya-pereformatirovanie-rynka-biznes-obrazovaniya.html.

3 *Что происходит с бизнес-образованием в Беларуси – опрос представителей рынка*, http://probusiness.by/markets/1772-chto-proiskhodit-s-biznes-obrazovaniem-v-belarusi-opros-predstaviteley-rynka.html.

4 Поўны тэкст Канцэпцыі і план яе рэалізацыі даступны на рускай мове па спасылцы: http://www.pravo.by/main.aspx?guid=12551&p0=C21500734&p1=1&p5=0.

# Трэнды ў развіцці беларускай бізнес-адукацыі

На сённяшні момант на рынку бізнес-адукацыі дамінуюць чатыры асноўныя актары: прыватныя кампаніі “Бізнес-школа Інстытута прыватызацыі і менеджменту”, Кансалтынгавая група “Здесь и сейчас”, “Бізнес-школа XXI век” і дзяржаўны Інстытут бізнесу і менеджменту тэхналогій Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. На долю гэтых установаў прыпадае каля паловы рынку правайдараў бізнес-адукацыі[5]. Астатнія кампаніі і ўстановы маюць меншае значэнне, а частка з іх бачыць бізнес-навучанне толькі як дадатковы прыбытак, не спрабуючы спецыялізавацца ў ім. Галоўнымі кірункамі, на якіх факусуюцца сёння беларускія бізнес-адукатары, з’яўляюцца менеджмент, маркетынг і асабістае развіццё, якія ахопліваюць больш за палову існых праграмаў[6].



Выпускнікі Інстытута бізнесу і менеджменту тэхналогій БДУ
(© www.bsu.by)

Паводле ўдзельнікаў рынку, гадавы памер рынку прыватных кампаній зменшыўся, магчыма, нават у два разы ад пачатку крызісу ў 2014 годзе, калі ён складаў ад $6,5 млн да $10,5 млн[7,8]. А ў беларускіх рублях рынак застаўся такім самым, калі ўлічваць інфляцыю і дэвальвацыю беларускага рубля. Цяпер жа рынак ажывае, бо многія кампаніі бачаць у развіцці эфектыўнасці шлях да выхаду з крызісу. Гэтаксама адбываецца рост набору студэнтаў-магістрантаў па бізнес-спецыяльнасцях ва ўніверсітэтах[9].

Аднак стан ажыўлення адрозніваецца ў Мінску і рэгіёнах, дзе цэны на бізнес-адукацыю застаюцца занадта высокімі для прадпрымальнікаў,

[5] Ассоциации развития менеджмента, *Обзор рынка бізнес-образования в Республике Беларусь*, Минск, 2014.
[6] Тамсама.
[7] Паколькі не існуе адзінай сістэмы падліку, то розныя даследаванні называюць розныя лічбы.
[8] Пры гэтым сам патэнцыйны памер рынку, паводле некаторых падлікаў, складае $28 млн. Гл. *Ёмкость рынка услуг бизнес-образования Беларуси может потенциально вырасти еще в 4 раза*, http://ta-aspect.by/Yomkost-rynka-uslug-biznes-obrazovaniya-Belarusi-mojet-potencialno-vyrasti-eshe-v-4-raza_2014_7_8.
[9] *Бизнес-образование в Республике Беларусь и перспективы его развития с учетом международных стандартов организации обучения*, Минск, 2016.

а заробкі – на траціну ніжэйшыя. Наагул па-за Мінскам, паводле ўдзельнікаў рынку, знаходзіцца толькі каля 10–20% бізнес-адукацыі. Пазітыўнымі выключэннямі з'яўляюцца дзяржаўныя рэгіянальныя ўніверсітэты, якія маюць бізнес-спецыяльнасці, і бізнес-школа ІПМ, якая адчыніла прадстаўніцтвы ва ўсіх абласных цэнтрах Беларусі і выкарыстоўвае тэхналогіі дыстанцыйнага навучання, каб знізіць кошт трэнінгаў.

Беларускія ўлады выказваюць зацікаўленасць у развіцці бізнес-адукацыі ў Беларусі, пра што сведчыць прыняцце ў 2015 годзе "Канцэпцыі фармавання і развіцця сістэмы бізнес-адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь". Праблема толькі ў тым, што Канцэпцыя мае празмерна завышаныя мэты, а план па яе рэалізацыі пакуль не выконваецца. Напрыклад, застаецца незразумелым, якім чынам вырасце рынак бізнес-адукацыі да $50 млн да 2020 года ва ўмовах эканамічнай стагнацыі. Магчыма, планы па рэалізацыі Канцэпцыі дэталізуюцца, калі паўстане Рэспубліканская рада па развіцці сістэмы бізнес-адукацыі – праўдападобна, што гэта адбудзецца ў 2017 годзе.

Само прыняцце Канцэпцыі пакуль не прынесла канкрэтных вынікаў, але ўзмацніла канкурэнцыю паміж living рознымі бізнес-школамі і асацыяцыямі. Прадстаўнікі меншых школаў абвінавачвалі буйных актараў на рынку бізнес-адукацыі ў выкарыстанні дзяржаўных рэгуляцыяў супраць канкурэнтаў[10]. Пазней прадстаўнікі гэтых школаў заснавалі новую Асацыяцыю кампаній кансультацыйных паслуг і бізнес-адукацыі, каб лепш прасоўваць сваё бачанне рынку. Удзельнікі рынку кажуць, што за апошнія гады адбылася кансалідацыя прафесійных асацыяцыяў бізнес-адукатараў – калі да 2011 года існавала толькі адна прафесійная асацыяцыя (Асацыяцыя бізнес-адукацыі), то цяпер іх тры.

*Асацыяцыі на беларускім рынку бізнес-адукацыі*

| **Назва асацыяцыяў** | Асацыяцыя бізнес-адукацыі | Асацыяцыя развіцця менеджменту | Асацыяцыя кампаній кансультацыйных паслуг і бізнес-адукацыі |
|---|---|---|---|
| **Тып арганізацыяў-удзельнікаў** | Пераважна дзяржаўныя правайдары бізнес-адукацыі | Пераважна буйныя прыватныя правайдары бізнес-адукацыі | Пераважна небуйныя прыватныя правайдары бізнес-адукацыі |
| **Колькасць арганізацыяў-удзельнікаў** | 18 | 6 | 5 |
| **Сайт** | www.belabe.by | www.amdbelarus.wordpress.com | Сайта няма |

Галоўнае, чаго жадаюць прадстаўнікі бізнес-школаў (як прыватных, гэтак і дзяржаўных) ад працы будучай Рэспубліканскай рады – гэта дастасаванне дзяржаўных рэгуляцыяў да сучасных рэаліяў. Напрыклад, многія метады бізнес-школаў, як коўчынг ці case-study, проста не адпавядаюць рэгламентам акадэмічных універсітэтаў. Даволі натуральна, што прадстаўнікі прыватных бізнес-школаў хацелі б пайсці як мага далей у лібералізацыі рынку.

Сёння ўсе, апроч бізнес-школы ІПМ, прыватныя правайдары бізнес-адукацыі не маюць статусу ўстановы адукацыйнага тыпу. Гэта не дазваляе

[10] *Директор EMAS: на рынке бизнес-образования Беларуси организован антиконкурентный сговор*, http://myfin.by/stati/view/5295-direktor-emas-na-rynke-biznesobrazovaniya-belarusi-organizovan-antikonkurentnyj-sgovor.

ім выдаваць дыпломы аб перападрыхтоўцы і павышэнні кваліфікацыі кадраў дзяржаўнага тыпу і пазбаўляе іх падатковых ільготаў, якія маюць дзяржаўныя правайдары з статусам установы адукацыйнага тыпу. Атрыманне ж гэтага статусу застаецца даволі складанай і працаёмкай працэдурай.

> Галоўнае, чаго жадаюць прадстаўнікі бізнес-школаў ад працы будучай Рэспубліканскай рады – гэта дастасаванне дзяржаўных рэгуляцыяў да сучасных рэаліяў

Развіццё сучасных інструментаў, як анлайн-адукацыя, адбываецца паволі і мае даволі абмежаваны характар. Гэта звязана з тым, што выключна анлайн-адукацыя не прыносіць жаданага эфекту, таму беларускія бізнес-школы пачынаюць выкарыстоўваць блэнд-праграмы, калі частка навучання адбываецца ў класе, а частка – дыстанцыйна. У дзяржаўных жа ўніверсітэтах развіццё новых тэхналогіяў бізнес-адукацыі паволі развіваецца, але гэта датычыць перадусім мінскіх універсітэтаў, тады як рэгіянальныя ўніверсітэты застаюцца ззаду.

# Асноўныя праблемы сферы бізнес-навучання

Падсумоўваючы трэнды, якія існуюць у сферы бізнес-адукацыі, трэба падкрэсліць тры асноўныя праблемы, якія замінаюць лепшаму развіццю бізнес-адукацыі ў Беларусі.

## Дзяржаўныя рэгуляцыі

Хоць дзяржаўныя чыноўнікі адкрыта заяўляюць аб неабходнасці дасягнення “рэальнай роўнасці ўсіх суб’ектаў, якія дзейнічаюць на рынку бізнес-адукацыі”[11], застаюцца нявырашанымі дзве ключавыя справы. Па-першае, прыватныя і дзяржаўныя бізнес-адукатары карыстаюцца рознымі падатковымі рэжымамі. Дзяржаўныя ўніверсітэты і іншыя ўстановы адукацыйнага тыпу, напрыклад, не плоцяць падатак на прыбытак і падатак на дададзеную вартасць. Па-другое, прыватныя кампаніі, якія не маюць статусу адукацыйнай установы, не могуць выдаваць дыпломы па перападрыхтоўцы і павышэнні кваліфікацыі дзяржаўнага ўзору. У практыцы гэта абмяжоўвае магчымасць прадстаўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў навучацца ў іх за кошт сваіх кампаніяў.

> Рэгуляцыі шкодзяць не толькі прыватным адукатарам, але і дзяржаўным універсітэтам

Гэтыя рэгуляцыі шкодзяць не толькі прыватным адукатарам, але і дзяржаўным універсітэтам. Для іх істотна, каб навучальныя праграмы былі эластычнымі (то бок каб абавязковы кампанент, які ўсталёўваецца зверху, у праграме навучання не перасягаў 50%), каб статус выпускнікоў MBA быў адлюстраваны ў дакументах Міністэрства працы і сацыяльнай абароны і каб выкладчыкамі ва ўніверсітэцкіх бізнес-школах маглі станавіцца людзі без навуковых ступеняў, але з практычным досведам у бізнесе[12]. Такім чынам, многія змены, якія саспелі ў сферы бізнес-адукацыі, патрабуюць зменаў у Кодэксе аб адукацыі, які цяпер распрацоўвае Міністэрства адукацыі.

## Слабая інтэграцыя ў міжнародную адукацыйную прастору

Праблемай беларускіх бізнес-адукатараў застаецца адсутнасць міжнародных акрэдытацыяй, якія маюць найбольшае значэнне на сусветным рынку бізнес-навучання: Association to Advance Collegiate Schools of Business, Association of MBAs, European Quality Improvement System. Адзіным выключэннем з’яўляецца бізнес-школа ІПМ, якая мае акрэдытаваную (AMBA) праграму з Універсітэтам Казімінскага ў Польшчы.

Нягледзячы на тое, што амаль усе буйныя бізнес-адукатары падтрымліваюць сувязі з замежнымі партнёрамі[13], беларуская бізнес-адукацыя дагэтуль варыцца ва ўласным соку. Як кажуць прадстаўнікі беларускіх бізнес-адукатараў, з якімі размаўлялі прадстаўнікі Цэнтра Астрагорскага, яны патрабуюць метадалагічнай падрыхтоўкі для стварэння новых доўгатэрміновых праграмаў.

---

[11] *Дмитрий Крупский: Реализация концепции бизнес-образования изменит статус-кво на рынке управленческих кадров*, http://ta-aspect.by/Dmitriiy-Krupskiiy-Realizaciya-koncepcii-biznes-obrazovaniya-izmenit-status-kvo-na-rynke-upravlencheskih-kadrov_2015_11_9.

[12] Владимир Апанасович, *Состояние,тенденции и перспективы развития бизнес-образования в Республике Беларусь*, http://media.miu.by/files/store/items/iot/37/iot_1_2014_1.pdf.

[13] Напрыклад, Інстытут бізнесу і менеджменту тэхналогій БДУ супрацоўнічае з “Новай Еўразіяй”, якая дзейнічае пры падтрымцы Агенцтва ЗША па міжнародным супрацоўніцтве (USAID); Кансалтынгавая група “Здесь и сейчас” мае сувязі з Інстытутам Адзізеса, а бізнес-школа ІПМ, як было згадана вышэй, мае супольную праграму з Універсітэтам Казімінскага.




Удзельнікі “ІнвестУікэнду” ў Гродне (© www.hrodna.life)

## Малая прысутнасць бізнес-адукатараў у рэгіёнах Беларусі

Паколькі цэны на бізнес-адукацыю кшталтуюцца ў сталіцы, многія навучальныя праграмы застаюцца недаступнымі для рэгіянальных бізнес-структураў. Аднадзённыя семінары за $70–90 могуць сабраць толькі найбольш заможных рэгіянальных бізнесоўцаў, у той час як попыт на падобныя семінары пры ніжэйшых цэнах быў бы вышэйшым. Пры гэтым недастатковая прадстаўленасць бізнес-адукацыі ў рэгіёнах стварае сітуацыю, калі само існаванне ў Беларусі бізнес-школаў застаецца невядомым фактам для многіх прадпрымальнікаў. Паводле аналізу Даследчага цэнтра ІПМ, больш за 40% апытаных малых і сярэдніх прадпрыемстваў Беларусі не ведаюць ніводнай бізнес-школы[14].

[14] Дарья Урбан, *Оценка состояния рынка труда в условиях экономического кризиса представителями малого и среднего бизнеса*, http://www.research.by/webroot/delivery/files/pdp2016r03.pdf.

# Рэкамендацыі па развіцці бізнес-адукацыі ў Беларусі

Значная праблема беларускіх бізнес-адукатараў у тым, што эканамічны крызіс у Беларусі не скончыцца як мінімум у бліжэйшыя некалькі гадоў. Гэта азначае, што попыт на большасць бізнес-школаў калі і будзе расці, то нязначна. У такіх умовах ёсць тры рэчы, на якіх павінны факусавацца беларускі ўрад, міжнародная супольнасць і бізнес-адукатары, каб палепшыць стан беларускай бізнес-адукацыі.

Ва ўмовах, калі эканамічных стымулаў росту рынку няма, беларускі ўрад мог бы **пазбавіць сферу ад непатрэбных рэгуляцыяў**, якія замінаюць развіццю бізнес-адукацыі, што паслужыла б штуршком для росту канкурэнцыі сярод бізнес-школаў. Ад гэтага выйграюць не толькі прыватныя школы, але і дзяржаўныя, якія пазбавяцца неабходнасці дастасоўваць уласныя праграмы да рэгуляцыяў універсітэтаў або Міністэрства адукацыі і атрымаюць магчымасць прыцягнення інвестараў.

Міжнародная супольнасць можа адыграць пазітыўную ролю, **падтрымліваючы метадалагічнае развіццё бізнес-адукатараў у Беларусі**. Сёння беларускія бізнес-школы патрабуюць метадалагічнага навучання, каб сфармаваць доўгатэрміновыя адукацыйныя праграмы, асабліва гэта датычыць блэнд-праграмаў, якія павінны мець спраўную метадалогію дыстанцыйнага навучання. Гэтаксама замежныя стажыроўкі ў заходніх бізнес-школах маглі б стаць каштоўным урокам для бізнес-адукатараў, якія фактычна не маюць у каго вучыцца ўнутры краіны. Гэтыя крокі б павысілі якасць працы выкладчыкаў і кампетэнцыі бізнес-школаў.

> Найлепшым партнёрам для супрацоўніцтва з замежнымі фондамі ўяўляюцца асацыяцыі, якія аб'ядноўваюць правайдараў бізнес-адукацыі

Зважаючы на канкурэнцыю паміж рознымі бізнес-адукатарамі, дапамога міжнароднай супольнасці мае быць як мага больш шырокай, каб не стаць інструментам у канкурэнтнай барацьбе. Дзяржаўныя і камерцыйныя кампаніі праз свой статус часам могуць не адпавядаць патрабаванням грантадаўцаў, таму найлепшым партнёрам для супрацоўніцтва з замежнымі фондамі ўяўляюцца асацыяцыі, якія аб'ядноўваюць правайдараў бізнес-адукацыі.

Гэтаксама грошы замежных фондаў маглі б быць накіраваныя на **развіццё адукацыі ў рэгіёнах Беларусі**, дзе цана бізнес-навучання застаецца адносна высокай. Адначасова з паляпшэннем адукацыйных праграмаў, дзякуючы замежным сродкам, беларускія бізнес-адукатары маглі б развіваць сваю прысутнасць у рэгіёнах, якая б дапамагала стварэнню новага кіраўнічага класа беларускіх кампаніяў.

# Пра аўтара

**Рыгор Астапеня** – аналітык і дырэктар па развіцці Цэнтра Астрагорскага. Рыгор таксама рэдагуе беларускі інтэрнэт-часопіс “Ідэя” і працуе над сваёй кандыдацкай дысертацыяй у Варшаўскім універсітэце. Паходзіць з Салігорска. Кантактны адрас – r.astapenia@ostrogorski.org.

# Пра Цэнтр Астрагорскага

Цэнтр Астрагорскага – прыватная некамерцыйная арганізацыя, якая займаецца праблемамі, з якімі сутыкаецца Беларусь у часе свайго пераходу да рынкавай эканомікі і вяршэнства права. Праца цэнтра накіраваная на дасягненне практычных вынікаў.

Цэнтр з’яўляецца першай “фабрыкай думкі”, заснаванай беларусамі, якія атрымалі адукацыю на Захадзе і жывуць у Беларусі і Еўрапейскім саюзе. Аналітыкі, якія працуюць у Мінску, Варшаве, Лондане і Берліне, разумеюць выклікі трансфармацыі ў рэгіёне, бо самі прайшлі праз іх. Атрымаўшы адукацыю ў вядучых універсітэтах свету, эксперты цэнтра выпрацавалі культуру і практычныя здольнасці, неабходныя для аналізу паводле заходніх стандартаў.

Цэнтр мае на мэце папулярызацыю рэформаў і мыслення, якое дапаможа зрабіць эканоміку больш канкурэнтнай, кіраванне больш эфектыўным, а таксама будзе спрыяць інтэграцыі беларускіх навукоўцаў і аналітыкаў у міжнародную навуковую супольнасць.

Інтэрнэт-старонка Цэнтра Астрагорскага – www.ostrogorski.org.

